# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 30 (387) | ГОД VIII | 28 ЛІПЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ПОВАДЫ Ў ДОБРЫХ РУКАХ

У Беластоку, як ужо падаваў штодзённы друк, пры Ваяводскім камітэце Польскай аб'яднанай рабочай партыі паклікана Ваяводскі камітэт для сельскагаспадарчых спраў. Старшынёю камітэта выбрана сакратара ВК ПАРП тав. **Станіслава Кудлу.**

— Таварыш старшыня, — звяртаюся да Станіслава Кудлы, — Ваяводскі камітэт для сельскагаспадарчых спраў — зусім новае звяно ў сістэме кіравання сельскай гаспадаркай...

— Выбачайце, вы памыляецеся. Не «звяно», а проста **рухавік гэтай сістэмы.** Пытанні сельскай гаспадаркі стаяць зараз у цэнтры ўвагі нашай дзяржавы. Перад сялянамі вялікія ды вельмі трудныя заданні. Іх вызначаюць пастановы 12-ага Пленума ЦК ПАРП, III-ці краёвы з'езд дэлегатаў сельскагаспадарчых гурткоў і шматважныя акты праўныя апошняй сесіі Сейма. Каб поўнасцю пераўтварыць гэтыя заданні ў дадатковыя тоны хлеба, малака і мяса, неабходна мэтанакіравана весці працу ўсіх арганізацый і ўстаноў, якія толькі што-небудзь супольнага маюць з сельскай гаспадаркай. Працу ўсіх гэтых арганізацый і ўстаноў трэба накіраваць у адно рэчышча, якое прабівае дарогу для хуткага развіцця сельскай гаспадаркі. Хіба ж памятаеце казку Крылова аб шчупаку, лебедзю і раку. Як там было?

— Вядома, кожны цягнуў у свой бок, а воз як стаяў на месцы, так і там застаўся.

— Так і ёсць у нас з установамі ды арганізацыямі, якія займаюцца сельскай вытворчасцю. Вось аддаем грамадныя мільёны злотых на асушку балот. Тым часам часта не можна праводзіць меліярацыю, бо балота неачышчана ад хмызнякоў, альбо кааператыў «Лес» не даставіў адпаведнай колькасці калкоў ці фашыны. У Ломжы будуецца зараз грамадная крухмальня. А ў Ломжынскім павеце замест прамысловай, штораз больш вырошчваецца насеннай бульбы. У Аўгустоўскім і часткова ў Дуброўскім



паветах сяляне адмаўляюцца ад вырошчвання тытуню, а на яго месца ўводзяць замкнутыя раёны бульбы. Падобныя з'явы выступаюць і ў другіх раёнах. Там бульба выціскае цукровыя буракі. Тыя, хто кантрактуе бульбу, зразумела, цешацца. Расце ім план, плывуць прэміі і ўзнагароды. Не зразумейце, што мы ворагі бульбы, але абавязаны мы бачыць усе праблемы як адну эканамічную цэласць. Калі ласка, прыклад з іншай шуфлядкі. Усе, кожная арганізацыя і ўстанова, узяліся зараз за галавы сялян. Кожны хто можа і не можа, хто ўмее і не ўмее цягне селяніна на лекцыю аб суперновых метадах гаспадаравання. Проста франтальная атака на мазгі сялян. Кожная арганізацыя ці ўстанова плоціць не малыя грошы кожнаму свайму дакладчыку за праведзеную лекцыю. Навука — рэч карысная і патрэбная, але яе таксама трэба праводзіць строга паводле нейкага сэнсоўнага плана.

Можна прыводзіць і другія прыклады раздробленасці ды бясплановых намаганняў і коштаў. Мяркую аднак, што дастаткова ўжо праведзеных, каб даказаць неабходнасці стварэння нейкага цэнтра кіравання ўсімі праявамі сельскагаспадарчага жыцця.

— Інакш кажучы, каб шчупак, лебедзь і рак не цягнулі сялянскі воз у розныя бакі, неабходна пасадзіць на ім умелага вазаку, які моцна трымаў бы повады ў сваіх руках.

— Так, несумненна так. Такім вазаком і з'яляецца **Ваяводскі камітэт для сельскагаспадарчых спраў.**

— Ці нашыя камітэты для сельскагаспадарчых спраў з'яўляюцца адлюстраваннем савецкага падзелу партыйнага кіравання гаспадаркай?

— Не. Савецкія партыйныя сельскагаспадарчыя камітэты складаюць самастойную ўзаімазалежную сістэму партыйнай адміністрацыі. Там сельскагаспадарчы і прамысловы, два розныя, ад сябе незалежныя камітэты. У нас ёсць інакш. **Наш Ваяводскі камітэт для сельскагаспадарчых спраў поўнасцю падпарадкаваны Ваяводскаму камітэту партыі і яго экзекутыве.** Гэта адносіцца да цэнтральнага і павятовых камітэтаў для сельскагаспадарчых спраў. Мы не з'яўляемся самастойнай незалежнай адзін-

(Працяг на стар. 5)

## ПАДЗЯКУ ПІШУ ЗАЛУКЧАНАМ

За што ж дзякаваць? Ці за тое, **што ў асноўным грамадскім чынам пабудавалі яны ў вёсцы краму, што давялі святло ў свае хаты, што ўпарадкавалі дарогу, якой даязджаецца з Залук да шашы, што навазілі ўжо камення для брукавання вуліцы, што рыхтуюць будулец на святліцу, што намагаюцца мець у сябе новую школу,** што...?

Хопіць хіба гэтага «што». Справа ж зусім нармальная. Зрабілі дык маюць. Ніхто ім не адбярэ. Будзе выключна для іх выгоды.

Так, несумненна так. Але, дальбог, як цудоўна было б, як карэнна змяніўся б краявід нашых вёсак, каб іншыя сяляне супольна настолькі паклапаціліся за свае агульныя справы.

Дык гэта яшчэ не ўсё! **Наўрад ці знойдзецца на Беласточчыне другая школа, якая змагла б пахваліцца двума тэлевізарамі! А ў старэнькай Залуцкай школе, якая размяшчаецца ў звычайным сялянскім памяшканні, ёсць іх — гэтых тэлевізараў — аж 2!** Адзін штопраўда часта капрызіць, зацінаецца, быццам нейкі конь, губляе фонію, як кажуць мясцовыя знатакі. Прыходзіцца прафілактычна валіць яму кулаком у лоб. Мабыць памагае. Затое другі! Арол. За 12 тысяч злотых.

Беласток грымеў, лікаваў, цешыўся: маем тэлебачанне! Пазайздросцілі залукчане. Якраз была аказія. Ваяводскае праўленне Саюза сельскагаспадарчых гурткоў пераказала Залуцкаму калектыву сельскагаспадарчай падрыхтоўкі 5 тыс. зл. на адкорм конкурсных цялят. Па прапанове кіраўніка мясцовай школы Люцыяна Нятупскага ўдзельнікі конкурсу гадоўлі цялят добраахвотна прызначылі гэтыя грошы на пакупку зачараванай скрынкі з сярэбраным экранам. Рэшта патрэбнага капітала знайшлася ў школьнай касе. Яго накапілі вучні працуючы пры пасадцы і ачысцы лесу, арганізуючы фантавыя латарэі і самадзейніцкія мастацкія пастаноўкі ды разводзячы рассаду цыбулі.

Але тут рабром стала Ваяводскае гуртkоўскае праўленне. Як жа гэта? Цялятам не культура, а корм, адборны корм патрэбны! Не памаглі абавязацельствы і закляцці, што ўдзельнікі конкурсу карміць будуць конкурсныя цяляты не праграмай тэлебачання, а ўласным найбольш смакавітым кормам. Справа павандравала аж у Варшаву, а калі вярнулася назад, ваяводства стала больш ласкавым.

Ад таго часу (ад лютага бг.) няма ў Залуках клопату са склікваннем усялякіх сходаў ці іншых акадэмій у нейкі «гонар». Калі толькі пачне працаваць беластоцкі тэлеперадатчык, цесненькая школа аж трышчыць ад захопленых гледачоў. Тэлевізар бы магніт цягне людзей у яе сцены.

Вось гэта называецца арганізацыя ды ініцыятыва! Надабавак, ініцыятыва цэлага калектыва. З яго асабліва выдзяляюцца кемлівасцю і энергіяй усе настаўнікі, а затым старшыня ГРН — Мікалай Рамановіч, кіраўнік пункту аховы здароўя — Станіслаў Глечман, старшыня бацькоўскага камітэта — Паплаўскі, старшыня сельгасгуртка — Язэп Станкевіч, ды гаспадары без ніякіх чынаў: Рыгор Майсак і Аляксей Парфенюк. **Дзякуючы перш за ўсё іхняй энергіі і руплівасці знайшоўся ў школе другі тэлевізар.**

Прэзідыум ПРН у Беластоку вясною бг. аб'явіў конкурс на спаборніцтва за першынство ў зборы складчын на грамадскі фонд пабудовы школ. Прыманкай былі не абы-якія ўзнагароды: **10 тэлевізараў.** Трэба было да 1-га мая выканаць свой гадавы план. Хто першы, той лепшы, а хто больш звыш плана — таму яшчэ ляпей.

Ну і пачалася работа ў Залуках. Сход (зразумела, пасля цікавай тэлеперадачы), абмеркаванне, а потым штодзень па тры асобы — ад хаты да хаты.

У Залуках 60 гаспадароў. Жывуць яны не надта багата. Здаралася і так, што людзі прасілі: залажыце, аддам.

(Працяг на стар. 4)

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



Рака Нарва ў ваколіцы вёскі Адрыжкі.
Фота В. Млыньчык

# НАСТУПЛЕННЕ САВЕЦКАЙ ПАЛІТЫКІ

Вялікае зацікаўленне ў свеце выклікала выступленне М. С. Хрушчова на мітынгу дружбы з выпадку знаходжання ў Маскве партыйна-ўрадавай дэлегацыі Венгрыі. Прэм'ер СССР выступіў з радам новых прапаноў, якія ў многіх выпадках ідуць насустрач прапановам Захаду па пытанню аб мірным суіснаванні і ліквідацыі небяспекі тэрмаядзернай вайны.

Як вядома, пачынаючы ад 15-ага ліпеня, працягваюцца ў Маскве трохстаронныя размовы аб забароне ядзерных выпрабаванняў. Адзначаючы вялікае значэнне такой забароны, М. С. Хрушчоў запрапанаваў утварэнне «на прынцыпах узаемнасці» ў дзяржавах Усходу і Захаду інспекцыйных груп, кантралюючых ваенныя парты, аэрадромы, вузлавыя станцыі і важныя дарогі, каб прадухіліць нечаканую атаку. Побач з забаронай ядзерных выпрабаванняў, прыняцце якой з'яўляецца, здаецца, рэальнай і блізкай справай, утварэнне інспекцыйных груп ахоўвала б свет перад нечаканым ядзерным нападзеннем. М. С. Хрушчоў запрапанаваў таксама, каб на тэрыторыі абедзвюх нямецкіх дзяржаў знаходзіліся ў вайсковых часцях спецыяльныя наглядальнікі — прадстаўнікі другой стараны. Яны атрымлівалі б інфармацыі аб рухах і размяшчэнні войск другой стараны ў найбольш важным пункце Еўропы, якім несумненна з'яўляюцца нямецкія дзяржавы. Больш таго, такая сітуацыя ў ГДР і ФРГ дазволіла б абмежаваць колькасць знаходзячыхся тут войск. Гэтую справу таксама ўлічыў М. С. Хрушчоў. Ён запрапанаваў замарозіць усялякія расходы на ваенныя мэты на іх цяперашнім узроўні або іх паступлова змяншаць. У прапановах савецкага прэм'ера гаварылася і аб падпісанні пагаднення аб ненападзенні паміж Варшаўскім дагаворам і НАТО. Усе гэтыя прапановы маглі б аказацца ўступам да поўнага, усеагульнага разбраення, што і з'яўляецца мэтай палітыкі Савецкага Саюза і другіх сацыялістычных дзяржаў.

Як было прынята выступленне М. С. Хрушчова на Захадзе?

Французскае інфармацыйнае агенцтва (АФП) пісала: «Прамова Хрушчова на мітынгу савецка-венгерскай дружбы з'яўляецца адной з найбольш важных, з якой выступіў калі-небудзь савецкі прэм'ер». Амерыканская газета «Нью-Йорк Таймс» адзначае: «Апошняе вялікае выступленне прэм'ера Хрушчова было ўспрынята як цвярозы і станоўчы ўклад на карысць паляпшэння міжнароднай атмасферы».

Першыя водгукі Вашынгтона і Лондана былі аптымістычнымі. Дэпартамент стану ЗША аб'явіў, што неўзабаве будуць дакладна разглядацца прапановы прэм'ера Хрушчова. Англійскае інфармацыйнае агенцтва падкрэслівала здавальненне, з якім былі прыняты прапановы савецкага прэм'ера.

Зразумела, не ўсюды на Захадзе ў такі спосаб ацэнена гэта важнае выступленне кіраўніка савецкай дзяржавы. Напрыклад, у сталіцы ФРГ — Бон — прадстаўнік парламентарнай групы ЦДУ сцвердзіў, што «важнай справай з'яўляецца не дапушчэнне да таго, каб Савецкі Саюз якімі-небудзь прапановамі падкапаў сілы НАТО або ўмацаваў існуючы парадак у Германіі». Падобнае заяўленне зрабілі таксама прадстаўнікі бонскага ўраду фон Гасе, міністр замежных спраў Шрэдэр, а нават правадыры Свабоднай дэмакратычнай партыі. (ФДП). Бачым, што адносіны Бон да важных савецкіх прапаноў не мяняюцца. Відаць, што ФРГ будзе асноўным праціўнікам дасягнення больш трывалых асноў мірнага суіснавання. Зараз уся справа ў тым, ці і ў якой меры галоўныя дзяржавы Захаду — ЗША і Вялікабрытанія — здолеюць унушыць сваім заходненямецкім партнёрам, каб змянілі палітычны курс.

Савецкі Саюз, які карыстаецца падтрымкай сацыялістычных дзяржаў і міралюбівых народаў, даў неабвяргальныя доказы кампрамісу па пытанню аб мірным суіснаванні. Зараз кожны наступны крок належыць ужо да Захаду.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# Ліпеньскія ўрачыстасці

Уся краіна ўрачыста адзначала 22 ліпеня, 19 гадавіну існавання народнай Польшчы. На многіх пасяджэннях, акадэміях рабочыя, сяляне і інтэлігенцыя даканалі агляду дасягненняў сваіх прадпрыемстваў і ўстаноў, дасягненняў грамад, паветаў, ваяводстваў. 20, 21 і 22 ліпеня ў многіх мясцовасцях кожнага з 17 ваяводстваў нашай краіны былі адданы да карыстання прамысловыя і сацыяльныя аб'екты, школы, бальніцы, дамы культуры, гандлёвыя пляцоўкі і г. д. Ніжэй мы паведамляем чытачоў аб важнейшых урачыстасцях на Беласточчыне, якія звязаны з годам Беластоцкай зямлі.

## У БЕЛАСТОЦКІМ ТЭАТРЫ

20 ліпеня ў тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку адбылася ўрачыстая сесія ваяводскай, гарадской і павятовай рад нарадовых. У гэтай сесіі ўзяла ўдзел дэлегацыя з Гродна з І сакратаром абвадовага прамысловага камітэта КПСБ В. Ф. Языковічам, а таксама прадстаўнікі рад нарадовых Варшавы, Любліна і Аполя. Пасля даклада старшыні прэзідыума ВРН у Беластоку Стэфана Жмійка і выступлення кіраўніка дэлегацыі з Гродна В. Ф. Языковіча адбыўся канцэрт калектыву песні і танца «Курпе зелёнэ».




Прэзідыум урачыстай сесіі ваяводскай, гарадской і павятовай рад нарадовых у Беластоку. Адкрывае сесію пасол Беластоцкай Зямлі Станіслаў Юхніцкі.

Фота Ю. Рыбінскі



Школа 1000-ддзя ў Алецку, адкрытая 22 ліпеня.

Фота Ю. Рыбінскі

## СЯРОД УЗНАГАРОДЖАНЫХ

З нагоды 22 ліпеня многія дзеячы культуры Беласточчыны атрымалі грашовыя ўзнагароды ад міністэрства культуры і ад аддзелу культуры Ваяводскай рады нарадовай. З вялікай прыемнасцю адзначаем, што ўзнагароду атрымаў таксама сакратар Прэзідыума ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк і журналіст «Нівы» Васіль Баршчэўскі.

## НОВЫЯ ШКОЛЫ

22 ліпеня ў Алецку адкрыта 22 у Беластоцкім ваяводстве і 600-ая ў краіне школа - помнік 1000-годдзя Польскай дзяржавы.

Школу, святліцу і рамізу ў гэты дзень аддана да карыстання ў вёсцы Палічна на Гайнаўшчыне. Як у Алецку, так і ў Палічнай урачыстасці гэтыя былі спалучаныя з мастацкімі выступленнямі і спартыўнымі спаборніцтвамі.

## НА БЕЛЬШЧЫНЕ

Цэнтральная ўрачыстасць з нагоды свята Адраджэння на Бельшчыне адбылася ў ПГР Каменны Двор. Там першы ў краіне адкрыты ў ПГР-ы Дом культуры.

Прэзідыум гарадской рады нарадовай у Бельску і прэзідыум ГРН у Пасынках занялі першыя месцы ў выкананні збору на грамадскі фонд будовы школ і за гэтыя дасягненні атрымалі тэлевізары.

## СВЯТОЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ

Святочныя прывітанні і пажаданні атрымала рэдакцыя «Нівы» ад многіх чытачоў і ўстаноў, за што ўсім складаем шчырую падзяку.

Рэдакцыя наша атрымала таксама тэлеграму з Гродна, у якой між іншым чытаем: «Калектыў рэдакцыі «Гродзенскай праўды» і журналісты Гродзеншчыны горача паздраўляюць працаўнікоў рэдакцыі «Нівы» са святам Адраджэння Польшчы і жадаюць новых вялікіх поспехаў у барацьбе за перамогу сацыялізма ў Народнай Польшчы».

Падпісалі тэлеграму галоўны рэдактар «Гродзенскай праўды» Георгі Лысаў і старшыня Аддзела Саюза журналістаў Андрэй Колас.

* * *

Сярод многіх планш вывешаных у розных месцах Беластока і паказваючых дасягненні Беласточчыны асобае зацікаўленне выклікае планша на рагу вуліц: Алей 1-га Мая і Сянкевіча, якая паказвае месцы нямецкіх злачынстваў на Беласточчыне.






Гадзіна прайшла, за ёй другая і трэцяя, а Дзітрых і Торп сядзелі адзін насупроць другога, амаль не мяняючы позы: Торп на падлозе, прыпёршыся да сцяны, выцягнуўшы ногі і палажыўшы на калені звязаныя рукі, Дзітрых на нізенькім зэдліку ля ўваходу, забаўляючыся прыгожым «вальтэрам».

Торп, здавалася, страціў надзею і пакарыўся лёсу. Ён не рухаўся, вочы яго былі паўпрыкрыты, твар выражаў змучанасць. На самай жа справе ён уважліва назіраў за сваім вартаўніком. Мозг Торпа напружана працаваў.

Што рабіць? Торп непрыкметна паварушыў рукамі. Кісці звязаны моцна, ногі таксама. Але чалавек, які вязаў яго, відавочна, нявопытны ў гэтым рамястве. Ні чым іншым не вытлумачыш, што вузел вяроўкі, звязваючай рукі, зроблены зверху.

202

Торп прыкінуў: калі добра сагнуцца, бадай дацягнецца да яго зубамі.

Торп вырашыў паспрабаваць...

Неўзабаве ў палоннага ўчасцілася дыханне, ён захрыпеў і зваліўся на бок, ударыўшыся галавою аб падлогу.

— Вады, — прашаптаў Торп.

Дзітрых не рухаўся.

— Вады, — зноў узмаліўся вязень, скручваючыся на падлозе.

Дзітрых працягваў сядзець. Але Торп, які не перастаў назіраць, адзначыў, што «прыпадак» выклікаў уражанне. Гэта прыдало яму новыя сілы і энергію. Торп працягваў кідацца. Потым, быццам аслабеўшы, заціх. Дзітрых адчуў няёмкасць. Ён не адчуваў літасці да фашыста, проста было непрыемна, што чалавек звязаны і бездапаможны. Яшчэ чаго добрага памрэ. Дзітрых устаў і, адыходзячы задам, каб не выпускаць вязня з поля зроку, выйшаў на кухню.

Кран быў збоку, у кутку. Там жа вісеў і кубак. Дзітрых абмеркаваў, што не зможа набраць вады, не выпусціўшы палоннага з-пад назірання. Ён вярнуўся, шырэй раскрыў дзверы ў кладоўку. Але гэта мала што змяніла.

Так бывае — Дзетрыху раптам і самому захацелася піць. Як дастаць вады? Ён асцярожна зірнуў на палоннага. Той ляжаў не рухаючыся, бледны, з закрытымі вачыма — магчыма, страціў прытомнасць.

203

Трымаючы зброю напагатове, Дзітрых пачаў памалу адыходзіць да крана. Вугал бачання мяняўся, паступова сцяна скрыла галаву і прыціснутыя да



галавы рукі Торпа, затым яго жывот і сцёгна. А да крану яшчэ далёка. Вось ужо відна толькі ногі палоннага. Яны не рухаюцца. Значыць, фашыст, як і раней, ляжыць спакойна. Не гублячы ног Торпа з віду, Дзітрых намацаў і павярнуў кран.

Паліўся тоненькі струменьчык вады. Дзітрых схапіў са сцяны кубак і падставіў пад кран.

Калі вугал сцяны скрыў вартаўніка, Торп хуткім

204

# З ПОЛЯ Ў МАЛАТАРНЮ

Спулдзельня прадукцыйная ў Дабромілю (Бельскі пав.) сарганізавана была ў 1958 г. на развалінах быўшага памешчыцкага маёнтку. Зараз яна залічваецца да перадавых калектыўных сельскіх гаспадарак у Беластоцкім ваяводстве.

Нядаўна Ваяводскае праўленне Саюза сялянскіх кааператываў наладзіла ў Дабромілю сваю выязную сесію. Удзельнікі сесіі пазнаёміліся з дасягненнямі спулдзельні і пабывалі на яе палях.

Члены спулдзельні ў Дабромілю ўпэўнены, што ў бягучым годзе атрымаюць не менш чымсьці па 20—23 цэнтнеры з кожнага гектара



збожжавых. На ўвагу заслугоўвае факт, што ў Дабромілю за кошт жыта на 9 гектараў пашырылася плошча пшаніцы. Яна ў бягучым годзе вельмі прыгожая. Спулдзельцы спадзяваюцца атрымаць каля 20 цэнтнераў з кожнага гектара. Такім чынам кааператыўшчыкі з Даброміля на практыцы ажыццяўляюць заклік І-га сакратара ЦК ПАРП тав. Гамулкі за пашырэнне плошчы пасеваў пшаніцы.

Жывёлагадоўля ў Дабромілю таксама пастаўлена на добрым узроўні. Палічыўшы супольны і прысядзібны статак у Дабромілю выпадае па 55 штук кароў на 100 гектараў зямельных угоддзяў.

Улічыўшы тое, што дабрамілеўцы супольна гаспадаруюць толькі пяты год, іх дасягненні сапраўды апраўдоўваюць добрую славу, якой цешыцца гэтая спулдзельня ў Беластоцкім ваяводстве. Спулдзельцы маюць намер асабліва шырока разгарнуць жывёлагадоўлю, а на палях адвесці шмат месца пад агародніну і пад зярно на насенне.

На здымку: спулдзельцы з Даброміля малоцяць сёлеташні рапс. Вясна б. г. не спрыяла для рапса. Многа яго вымерзла. У Дабромілю аднак вырас ён на славу. З плошчы 2,5 га спулдзельцы сабралі звыш 60 цэнтнераў гэтай карыснай прамысловай расліны. Працу пры ўборцы рапсу сарганізавалі яны вельмі спраўна. Скошаны рапс вазілі трактарнымі прычэпамі непасрэдна да абмалотачнага агрэгата. Такім чынам заашчадзілі шмат часу і сродкаў. Падобным спосабам спраўляюцца яны з другімі сельскагаспадарчымі культурамі.

Тэкст і фота **В. РУДЧЫК**

## З ЖЫЦЦЯ БГКТ

### НА ФЕСТЫНЕ

Па ініцыятыве Праўлення павятовага аддзела БГКТ у Беластоку Галоўнае Праўленне нашага Таварыства наладзіла нядаўна ў Залуках вялікі фестын.

Асноўным атракцыёнам фестыну быў канцэрт распяваных дзяўчат — прыгажунь з Гарадка. Канцэрт вяла салістка «Лявоніхі» Ніна Светтахоўская. Беларускіх песень у выкананні дзяўчат-прыгажунь слухалі ўсе з вялікім зацікаўленнем.

**Б. Р.**

Фота — аўтара



### НА МАГІЛЕ ПАЎСТАНЦАЎ

У сувязі з Годам Беластоцкай зямлі і 100 гадавінай студзеньскага паўстання гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку наладзіў экскурсію ў мясцовасць Копная Гара на Сакольшчыне. Тут, пад помнікам паўстанцаў, прысутныя выслухалі інфармацыю В. Баршчэўскага і А. Кунаха аб студзеньскім паўстанні на Сакольшчыне. Варта падкрэсліць, што магіла паўстанцаў, якой апякуецца мясцовае надлясніцтва, знаходзіцца ў належным парадку. На ёй букеты жывых кветак.

Экскурсія была спалучана з адпачынкам. Актывісты БГКТ разам з сем'ямі весела правялі час у вельмі маляўнічай аколіцы над ракой Сакалда. У час адпачынку арганізавана шэраг цікавых конкурсаў гістарычна - літаратурнага і спартыўнага характару. Пераможцы конкурсаў атрымалі кніжныя ўзнагароды.

Праўленне аддзела ў сваім плане працы намеціла больш падобных экскурсій у летнім перыядзе. Гэта вельмі карысна. (вб)



**На здымку: над рэчкай з гармонікам прыемна адпачываецца.**

Фота: **В. РУДЧЫК**

# СВЯТЛІЦА З АРЭШКАВА

— Удалася нам светліцовая, — гавораць аб Веры Філіпюк у Арэшкаве, Гайнаўскага павета. — Вера — добры арганізатар. Таму і святліца кожнаму ў нас сталася роднай хатай.

— Люблю сваю працу, — гаворыць Вера Філіпюк. — А яна нялёгкая. Трэба ўмець падыйсці не толькі да кожнага асяроддзя (школьнікаў, моладзі ці старэйшых), але і да кожнага асобна.

Вера Філіпюк ужо 2 гады працуе светліцовай у Арэшкаве. Пачаткова цяжка ёй даводзілася. Асабліва ў працы з пазашкольнай моладдзю.

— Бывала, — кажа Вера, — звярну ўвагу нейкаму падвыпіўшаму хлопцу за яго нетактоўнасць, грубасць, а ён не толькі агрызнецца, але і за крэсла хопіць.

Не, ніхто тут Веру не ўдарыў. Мо' і таму, што яна не аказала баязлівасці, а толькі ўстойліва дамагалася свайго. Зараз у святліцу падвыпіўшыя не заходзяць. Нават вясковыя забавы адбываюцца тут без п'яных. Вельмі культурна. Пры святліцы існуе 15-ціасабовы драмгурток і хор. Драмгурток з пастаноўкай «Прымакоў» пабываў і ў другіх мясцовасцях павета.

Разам з развіццём мастацкай самадзейнасці ў вёсцы выкрываліся таленты моладзі. Вельмі здольнымі ў мастацкай самадзейнасці аказаліся Марыся Яцко, Марыся Нікалаюк і Коля Скепка. А Коля Савіцкі цешыць прысутных сваім прыгожым голасам.

Вера Філіпюк патрапіла навязаць цеснае супрацоўніцтва з мясцовай школай. Два разы на тыдзень яна праводзіць заняткі з малодшымі школьнікамі. У кожны аўторак і пятніцу школьнікі пад кіраўніцтвам светліцовай вучацца танцаў, спеву і культурных іграў.

Арэшкаўская святліца з'яўляецца таксама добрым прапагатарам чытальніцтва сярод жыхароў. Бібліятэка налічвае тут каля 4-рох тысяч кніжак (у гэтым ліку каля 400 кніжак на беларускай мове). У бібліятэцы — 120 пастаянных чытачоў. Гэта пераважна старэйшыя жыхары вёскі. Бібліятэка пастаянна падпісвае 12 розных часопісаў. Сярод іх ёсць і беларускія. Яны карыстаюцца папулярнасцю сярод жыхароў вёскі.

Зараз Вера Філіпюк — студэнтка завочнага культурна-асветнага студыума. Несумненна, што навука яшчэ больш уздзейнічае на яе добрую працу ў святліцы. (вб)

### РЫБАЦКІ ТРАКТАРЫСТ

Не зазнаў шчасця Мікалай Кічкайла ў сваім маленстве. Яму не было яшчэ і 10 гадоў, калі гітлераўцы замардавалі бацьку, партызанскага сувязнога. Маці засталася з пяцёркай маленькіх дзяцей. Коля быў найстарэйшы. Таму і не па гадам даводзілася яму працаваць. Усяго ён зазнаў у сваім дзяцінстве. А цяпер Коля Кічкайла, так сказаць, самы перадавы хлапец у аколіцы. Калі ў Бандарах, Беластоцкага павета, арганізавалі сельскагаспадарчы гурток, Колю выслалі на курс трактарыстаў. Зараз ён з'яўляецца першым трактарыстам у гуртку. Пакахаў сваю працу Коля. Ён і не расстаецца са сваім жалезным канём. Добры трактарыст з Колі. Калі прымецца за нейкую працу дык, як правіла, выканае яе пагаспадарску. Таму і любіць уся аколіца свайго трактарыста. А працы тут хапае. Гаспадары вёсак: Бандары, Багнюкі, Таніца, Рудня, Бахуры, Баўтрыкі і Рыбакі ўсё менш карыстаюцца такімі традыцыйнымі сельгаспрыладамі, як плуг, каса ці цэп. Іх усё больш заступае жалезны конь — трактар. (вб)

рухам паднёс звязаныя кісці да роту, ушчаміўся зубамі. Вяроўка была грубая, вузел моцна зацягнуты. Торп да крыві раздзіраў дзёсны, з такою сілаю дзейнічаў скіўцамі, што іх пачала зводзіць сутарга. Але ён нічога не прыкмячаў. Толькі б паспець!.. Дзікая радасць ахапіла яго, калі вузел пачаў паддавацца.

Увесь гэты час ён не спускаў вачэй з дзвярэй. Як толькі цень вартаўніка, які ляжаў на падлозе, рушыўся, Торп апусціў рукі і застаў у папярэдняй позе. Вузел не быў развязаны.

Дзітрых прынёс ваду, паставіў кубак на падлогу, наском нагі падсунуў Торпу.

— Пі, — сказаў ён. — Чуеш, пі, гэта вада.

Торп не рухаўся.

Дзітрых вычакаў, потым крануўся рукой Торпа. Вязень быццам апрытамнеўшы, заенчаў, дзёрнуўся. Нялоўкі рух пляча, і кубак перавярнуўся. Вада разлілася па падлозе.

— Чорт бы цябе ўзяў, — вылаяўся Дзітрых. — Вось паслаў Бог занятак — ахоўваць такое падла.

Дзітрых усеўся на зэдлік, закурыў. Ён бачыў: палонны вось-вось зноў страціць прытомнасць. Выдалася нават, што з роту ідзе пена, кроў.

205

Дзітрых узяў кубак і зноў адправіўся за вадой. Гэтага і дабіваўся Торп. Ён хутка скончыў з вузлом. Цяпер — рывок мацнейшы, і рукі будуць свабодныя!

З поўным кубкам у адной руцэ і з пісталетам у другой з'явіўся Дзітрых. Ён коса глянуў на палоннага. Усё было ў парадку, той ляжаў як раней.

Асцярожна, каб не расплёскаць ваду, Дзітрых нагнуўся над ляжачым.

— Раз!.. Рукі Торпа ўскінуліся ўверх, абхапілі правую кісць Дзітрыха, у якой быў пісталет, ірванулі ўбок. Рэзкі боль прашыў руку. «Вальтэр» выпаў. Не даўшы праціўніку апамятацца, Торп зваліў яго на падлогу, намацаў пісталет і ручкаю праламаў Дзітрыху чэрап.

Цяжка дыхаючы, Торп разблытаў вяроўкі, якімі былі звязаны ногі, з цяжкасцю ўстаў, размінаючы зацёкшае цела, прайшоў на кухню, напіўся. Затым ён абшукаў забітага, знайшоў сігарэты, закурыў. На гадзінніку было дзесяць вечара з мінутамі. Трэба спяшаць — перад намі шмат важных спраў. Ён сунуў у кішэню пісталет забітага і выйшаў.

Неўзабаве Торп ішоў па бязлюдным шасэ, накіроўваючыся ў горад.

**(Працяг за тыдзень)**

206



**Напаўнянне бутэлек Крынкаўскай «аранжады».**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ЯКАЯ СЯЎБА — ТАКІ ПЛЁН

Старая прымаўка гаворыць, што як пасцелешся, так і выспішся. Праўда. Мудрая прымаўка. Сэнс яе можна разцягнуць і на іншыя справы, хаця бы, напрыклад, на сельскагаспадарчыя праблемы.

Як пасееш, такі будзеш мець плён. Менавіта ў неўрэгуляваных справах насеннай гаспадаркі, у неабгрунтаваных папярэджаннях і старых навыках, у неразуменні справы знаходзяцца галоўныя прычыны нізкай ураджайнасці.

Расказвалі мне члены спулдзельні з Крывой, што нагаварылі калісьці свайго суседа, каб вымяняў збожжа. А меў ён зерне спрадвеку. Напэўна здзівіўляўся, што суседзі збіраюць па 16, 18 ці 20 ц з гектара, а ў яго заўсёды менш. Гатоў быў гаварыць, што гэта дзейнічаюць «злыя духі». А гэта проста зерне вырaджанае, звыраднелае, аб нізкай біялагічнай вартасці не хацела добра радзіць.

Беластоцкія ПГР рыхтуюць ужо пасяўны матэрыял. Дадуць яны гаспадарам на сяўбу восенню 6 000 тон кваліфікаванага зерня. Штогод сеем у ваяводстве каля 311 000 азімага збожжа. Яго ўраджаі маглі б быць большымі на 2 ц, калі б усе сяляне прымянялі класіфікаванае зерне.

Трэба тады ведаць, што галоўнае — гэта чысты ў генетычных адносінах, здаровы, дародны, свабодны ад пустазелля пасяўны матэрыял. Мы павінны клапаціцца пра дабор разнавіднасці насення, якое прыстасавана да нашых раёнаў, да нашых умоў і якое дае самы высокі плён.

Далейшая справа — гэта грунтоўнае дачышчэнне насеннага збожжа, а калі і трэба дасушэнне. Для гэтай мэты ўжываем млынка, вяльні, трыера ці жмійкі. У млынку аддзяляем лёгкія часткі (мякіну, кавалачкі саломы, лёгкае насенне пустазелля, пазадкі). Адбываецца гэта пад уплывам сільнага паветра. У вяльні дабіраем патрэбныя сіты. У такі спосаб можам пасартаваць насенне. Далейшае дачышчанне адбываецца ў трыерах.

Круглае насенне напр. гарох ці віку можам аддзяліць ад збожжа пры дапамозе жмійкі. Гэта патрэбная прылада, асабліва пры аддзяленні насення вікі, якую гадуем разам са збожжам.

Найлепшыя вынікі атрымоўваюцца на машынах «Petkus». Нашыя ПГР маюць іх 45 штук. У паўднёвым раёне паслугі ў чыстцы насення робіць пункт «Цэнтралі насеннай» у Бельску. Ён мае высокапрадуктыўнае абсталяванне.

Рыхтуючы пасяўны матэрыял не забывайма пра запраўлянне насення. Маем сухія заправы і мокрыя. Можна ўжываць напр. 250—300 г. меднага карбанату (węglanu miedzi) на 1 ц пасяўнога зерня. Заправы ахоўваюць расліны перад шматлікімі хваробамі (спарынння, сажа, снегавая плесня і іншыя).

Пасяўны матэрыял трэба даследваць у Станцыі ацэны насення. Галоўным чынам разыходзіцца пра вільготнасць, пра сілу прарошчвання і засмячэнне насеннем іншых раслін, асабліва пустазеллем.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# КАЎБАСА, ВАДА І ХЛЕБ

ГС у Крынках адна з большых на Сакольшчыне. Абслугоўвае яна 54 вёскі. Тэрыторыя вельмі разлеглая, плошчай амаль 50 тысяч гектараў зямельных угоддзяў. Таму і праца не лёгкая. Усюды ж трэба даехаць, давезці прамысловыя тавары, закупіць сялянскія. А ўсё ж не гледзячы на гэтыя цяжкасці ГС з кожным годам працуе ўсё больш паспяхова. З кожным годам яна выпрацоўвае ўсё большыя даходы. У мінулым годзе, напрыклад, выпрацавана тут амаль паўмільёна злотых даходу.

ГС мае свае вытворчыя прадпрыемствы. Мясную, пякарню, прадпрыемства газіраванай вады, гасподу і бар. Мясная тут новапабудаваная. У ёй навейшае абсталяванне. Крынкаўскія мясныя вырабы і ў асаблівасці каўбаса славутыя ва ўсёй Сакольшчыне высокай якасцю і смакам. ГС можа сваімі мяснымі вырабамі забяспечыць увесь Сакольскі павет. Аднак найбольш славута Крынкаўская ГС вырабам «аранжады». Яна тут мае сапраўды сваеасаблівы, прыемны смак, якога не сустрэнеш нідзе на Беласточчыне. Такой «аранжады» ў летнюю спёку залпам вып'еш 4 бутэлькі і яшчэ хочацца.

— Чым растлумачыць сваеасаблівы смак вашай «аранжады»? — пытаем кіраўнічку прадпрыемства Альбіну Рэдзька.

— Уся справа ў вадзе, з якой вырабляем «аранжаду». Вада ў нас крыніцамі б'е з-пад зямлі. Менавіта гэтая вада мае багатыя ўласцівасці, якія і надаюць сваеасаблівы, выключны смак Крынкаўскай «аранжады».

— Як многа прадукуеце сваёй «аранжады»?

— 1000 бутэлек у суткі, але маглі б значна больш.

— А ў чым перашкода?

— Бутэлек не хапае.

Перашкода, як здаецца, не так ужо і вялікая. Проста нейкі недагляд з боку кіраўнікоў ГС. А вытворчасць гэтага асаблівага Крынкаўскага напітку варта было б павялічыць. Яго ахвотна куплялі б не толькі ў Крынках і аколіцы, але і ў другіх мясцовасцях Беласточчыны. І яшчэ адна справа. Чаму, напрыклад, нашым гандлёвым уладам не ўстанавіць нейкіх спаборніцтваў паміж вытворчымі прадпрыемствамі за найлепшыя вырабы. Напрыклад, газіраванай вады, каўбасы ці хлеба і не ўстанавіць узнагарод пераможцам? Гэта ж прадукты штодзённага карыстання як жыхароў горада так і вёскі. Таму і хочацца, каб яны былі як найлепшыя, смачныя. А то, бывае, купіш бутэльку «аранжады», каўкнеш і не пазнаеш ці гэта вада з сажалкі, ці яшчэ нешта іншае. А грошы заплаціў, як за добрую. У адным я толькі ўпэўнены, што калі б былі арганізаваны такія спаборніцтвы дык Крынкаўская «аранжада», ці каўбаса, не знайшла б мабыць сабе канкурэнтаў.

Шмат горш (каб не сказаць — крытычна!) прадстаўляецца ў Крынках справа з хлебам. Крынкі ўсё ж мясцовасць не малая. І хоць жыхары яе амаль усе маюць сякія-такія гаспадаркі, але не ўсе маюць магчымасці пячы хлеб хатнім спосабам. Каля Крынак блізка няма лесу. Драўніну на апал купіць тут вельмі дорага. А хлеб зноў абы-якімі дровамі і не спячэш. У Крынках ёсць пякарня, але абсталяванне яе амаль дапатопнае. Стары, цесны будыначак. Печы развальваюцца. У такіх умовах Крынкаўскія пекары проста лічы, што віртуозы, калі патрапяць выпячы смачны хлеб. Але што ж, калі ў старай пякарні пры максімальных намаганнях пекараў можна ў суткі спячы толькі 1 200 кілаграмаў хлеба. А самыя толькі жыхары Крынак (не ўлічваючы паасобных вёсак, якія абслугоўвае ГС) патрабуюць у суткі звыш 3 тысяч кілаграмаў хлеба. Нічога тады дзіўнага, што ў краме з хлебам штодзённа адбываецца тут «Садома і Гамора». Гэта проста трагедыя Крынак.

Кіраўніцтва ГС, улічваючы цяжкую сітуацыю, рабіла ўсе намаганні, каб як хутчэй пабудаваць новую пякарню. У гэтай мэце атрымана адпаведны крэдыт, зроблена ўсю тэхнічную дакументацыю на пякарню аб прадукцыйнай здольнасці да чатырох з палавінай тысяч кілаграмаў хлеба ў суткі.

Пабудовай пякарні мела заняцца Падляшскае прадпрыемства будаўляных работ. Але пасля прадпрыемства заперла нагамі і не хоча пачынаць пабудовы.

Па якой прычыне?

Кіраўнікі гэтага шаноўнага прадпрыемства ў пісульцы прысланай Крынкаўскай ГС сваю неахвоту растлумачваюць тым, што ў каштарысе пабудовы пякарні няма зазначаных траўнікаў і клумбаў, якія маюць быць пры новапабудаванай пякарні. Таму яны і не могуць пачынаць пабудовы. У іншым зноў пункце гэтае ж пісулькі кіраўнікі зазначаюць, што такіх работ як траўнікі, ці даяздовыя дарожкі яны не выконваюць.

Паспрабуй разбярыся, у чым тут справа і пра што разыходзіцца каханай бюракрацыі. Калі ў Крынках будзе новая пякарня — невядома. А хлеба не хапае. Жыхары Крынак намераны выслаць дэлегацыю ў гэтай справе да ваяводскіх улад. Мо' гэта паможа.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

**У такіх умовах спячы добры хлеб трэба быць віртуозам.**

Фота — **В. Млыньчык**

# Повады ў добрых руках

**(Працяг са стар. 1)**

кай, але нас паклікана і мы дзейнічаем пры Ваяводскім камітэце ПАРП. Гэты камітэт зацвярджае нашы планы працы і мы перад ім разлічваемся са сваёй дзейнасці.

— Чым, перш за ўсё, будзе займацца ваш камітэт?

— Усім тым, што пасрэдна ці непасрэдна датычыць вёскі. У роўнай ступені абыходзіць нас, скажам, вырошчванне пятрушкі, як і прадукцыя трактараў ці камбайнаў.

— А чым не будзе займацца?

— Толькі адным: **выручкай у працы дзяржаўнай сельскагаспадарчай адміністрацыі і другіх арганізацый.** Некаторыя таварышы ўжо цешацца, што змогуць спакойна паддрамаць. Дарэмная, заўчасная іх радасць! Неабходна зразумець ім асноўную рэч: **Ваяводскі камітэт для сельскагаспадарчых спраў паклікаены для партыйнага кіравання сельскай гаспадаркай. Ён нікому не адбірае ніякіх правамоцтваў, але і нікога не будзе выручаць у працы. Яго асноўнае заданне — сціплая і аператыўная каардынацыя працы і дзейнасці ўсіх установ і арганізацый, якія неяк звязаны з вёскай.** Мы адмаўляемся ад адміністрацыйнага прымусу. Праграму нашай дзейнасці ажыццяўляць будзем выключна дарогай партыйнага ўплыву праз членаў партыі, якія працуюць у сельскагаспадарчых арганізацыях і ўстановах.

— Ці камітэт прадбачвае нейкую форму супрацоўніцтва з Аб'яднаным странніцтвам людовым?

— Зразумела. На нашых пасяджэннях пастаянна будуць прысутнічаць прадстаўнікі гэтай братняй нам партыі, а затым будзем запрашаць на пасяджэнні старшынь або іх намеснікаў прэзідыумаў павятовых радаў нарадовых, членаў ЗСЛь, якія, як правіла, нясуць адказнасць за сельскую гаспадарку ў сваіх раёнах.

— Якія сельскагаспадарчыя праблемы Беласточчыны лічыце Вы найважнейшымі для дзейнасці камітэта ў бліжэйшым часе?

— У нас усе праблемы важныя, але ў другім паўгоддзі бягучага года займемся перш за ўсё меліярацыяй, ацэнкай стану жывёлагадоўлі, адпаведнай распрацоўкай раёнаў кантрактаваных пасеваў, ацэнкай ажыццяўлення пастаноў аб «агрwelmінімум» і другіх заданняў пастаўленых сялянам на III-цім сельскагурткоўскім з'ездзе ды ўрэшце займемся адпаведным пакіраваннем сельскагаспадарчай адукацыі.

— Дзякую за размову і жадаю поспехаў.

Гутарыў **В. РУДЧЫК**

# ЦЯПЕР БАКУ НЕ НАЙВАЖНЕЙШЫ



**Бурыльная вышка каля вёскі Маркава затоплена нафтавым возерам.**

На пачатку 1961 года паблізу сібірскай вёскі Маркава над Ленаю распачата бурыльныя работы па даследванню слаёў зямлі. Ніхто нават не падумаў аб тым, што будуць тут адкрыты велізарныя паклады нафты. Мясцовыя людзі прызвычаіліся да дзіўных машын і рэдка хто з іх прыпыняўся, каб паглядзець, як працуюць бурыльшчыкі.

Так было і 18 сакавіка 1962 года. У гэты дзень адбывалася свідраванне на глыбіні 2 160 метраў. Раптам апаратура паказала, што ў шчыліне паявіўся газ. Трэба чым хутчэй забяспечыць дзіру ад неспадзяванага выбуху! Але не паспелі рабочыя што-небудзь зрабіць, як шугануў пад неба зялёнажоўты фантан нафты. Даслоўна, за пяць мінут заліло аколіцу, а расхляпістыя смуродныя пырскі нясло з ветрам аж на другі бераг шырокай Лены. Заціхаў вецер, вакол слаўся ўдушлівы газ.

Нафтавае возера разлівалася з мінуты на мінуту. Вось — вось, здаецца, пальецца ў раку і вытруціць рыбу і сапсуе ваду, стануць вадаправоды ўзбярэжных гарадоў. А ўпадзе малюткая іскрынка — разбушуецца паднябеснае пекла. Словам, катастрофа вісіць на валаску!

Днём і ноччу, цэлымі тыднямі, працавалі людзі пры пабудове высокага вала, каб адгарадзіць такім чынам раку Лену. Мароз даходзіў да сарака градусаў, зямля зацвярдзелая бы граніт. Курыць і раскладаць агні сурова забаронена, бо гэта было б раўназначнае страшнай смерці ў гіганцкім полымі.

Цяпер неабходна затрымаць шалёны фантан. Знайшлося восем ахвотнікаў — інжынеры Разенбаум і Чарнякоў, майстар Фадзееў, тэхнік Азяроў, бурыльшчыкі Сапожнікаў, Чувашаў, Мельнікаў, Седуноў. Працавалі без масак сярод смярдзючых хваль, бо залівала фільтры. Дзякуючы іх вялікай адвазе ліквідавана небяспеку.

Што рабіць з нафтавым возерам? Лёгка сказаць: вывезці, перапампаваць. Справа ў тым, што мо' ужо заўтра або паслязаўтра пачнецца вясенняе разводдзе і разалье свае бяскрайнія воды рака Лена. Не, няма іншага выйсця, як толькі спаліць! Іменна, спаліць і то зараз, не чакаючы даўжэй. Так і зроблена.

**Цяпер не Баку з'яўляецца галоўным пастаўшчыком нафты. Больш яе здабываецца ў Сібіры і на Урале.**

**На здымку бачым будову нафтаправода Туймазы — Іркуцк. Зварка рур у раёне Новасібірска.**

Доўга гудзела мора агню... На месцы незвычайнага возера засталася счарнелая, палопаўшая зямля. (а-ся)

# ЦІ НЕЛЬГА ЦІШЭЙ?

Усякі шум шкодна дзейнічае на арганізм чалавека. Гэта было вядома яшчэ ў старажытнасці. Звыш дзвюх тысяч гадоў назад у Кітаі быў выдадзены закон, дзе гаварылася: «Хто зневажае ўсявышняга, не павінен быць павешан, але флейтысты, барабаншчыкі, крыкуны павінны няспынна іграць перад ім, пакуль ён не зваліцца мёртвы, бо гэта самая пакутлівая смерць, якую можа перанесці чалавек».

Нават невялікі шум на вуліцы ці ў кватэры вельмі дрэнна ўздзейнічае на цэнтральную нервовую сістэму, выклікае галаўны боль, хуткае стамленне, бяссонніцу, раздражняльнасць. Пастаяннае або вельмі частае ўздзеянне шуму можа выклікаць развіццё гіпертанічнай хваробы і іншых сардэчна - сасудзістых захворванняў, парушэнне функцыі шчытападобнай залозы і кары наднырачніка. Значыць, каб захаваць здароўе, бадзёрасць, стварыць умовы для добрага адпачынку і прадукцыйнай работы, неабходна ўсяляк змяншаць гарадскі шум, захоўваць цішыню ў кватэрах і грамадскіх месцах. На жаль, гарадскі транспарт стварае яшчэ многа шуму. Праўда, над гэтай праблемай працуюць інжынеры. Паступова шумны транспарт будзе замяняцца больш ціхім. Вельмі карысна, што ў гарадах адменены гукавыя сігналы.

Многае ў барацьбе з шумам залежыць ад нас саміх, ад нашых паводзін і свядомасці. Ёсць жа сярод нас «аматары», якія ў любы час дня і ночы на поўную магутнасць уключаюць радыёлы і магнітафоны, не задумваючыся над тым, што яны псуюць адпачынак суседзям. А хіба мы не сустракаем і ў аўтобусе, і ў сябе на рабоце людзей, якія без крыку наогул не могуць размаўляць. Да такіх людзей трэба прымаць меры грамадскага ўздзеяння. Не спрэчкі з-за дробязей, а клапатлівыя, цёплыя адносіны адзін да аднаго будуць ствараць спрыяльную глебу для цудоўнага настрою, добрай работы і адпачынку.

У барацьбе з вулічным шумам дапамагаюць нашы «зялёныя сябры», — дрэвы, кусты, пасаджаныя ўздоўж вуліц, каля дамоў. Яны паглынаюць значную частку транспартнага шуму.

Барацьба з шумам — гэта барацьба за здароўе чалавека.

**З. Сергіевіч**
урач

# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## ЖАБЫ ПРАДКАЗВАЮЦЬ ПАГОДУ

Такое сцвярджэнне можа здавацца непраўдападобным. Аднак аб тым, які будзе заўтра дзень, можа даведацца, уважна паслухаўшы... кваканне жабы. Справа ў тым, што дыхальныя органы жаб вельмі чулыя на перамену атмасфернага ціску. Перад дажджом, напрыклад, жабы квакаюць зусім не так, як напярэдадні сонечнага дня і г.д. Па назіраннях аднаго кітайскага натураліста, жабін «прагноз» спраўджаецца на 90—95 працэнтаў.

## МАЛПІНА „МОВА”

У Нью Йоркскім заалагічным парку вучоныя запісвалі на магнітафонную плёнку малпіну «балбатню». Але пачаўся дождж і прыйшлося спыніць магнітафонны запіс. На другі дзень вучоныя ізноў прыйшлі з магнітафонам, каб малпы паслухалі свайго ўчарашняга голасу. Аднак, калі яны пачулі свае крыкі, якія выдавалі ўчора перад дажджом, кінуліся ўцякаць пад дах, хаця на небе не было ніводнай хмаркі і стаяла сонечная, ясная пагода.

а—ся

## У ПАЎДНЁВААМЕРЫКАНСКАЙ ДЖУНГЛІ

Ноччу ў джунглі так цёмна, што смела можна выймаць з фатаграфічнага апарата плёнку і яна не сапсуецца — не засветліцца. Зрэшты, тут такі гушчар, што і ўдзень рэдка відаць сонца.

Начлежнікаў адзіўляе незвычайная цішыня. Здаецца, што ўсё навокал адпачывае і спіць пасля душнага, спякотнага дня. Часамі толькі пакоціцца на зямлю плод з нейкага дрэва або зашахаціць па лісцям буйная кропля расы. Дзесьці далёка закрычала птушка, а каля поўначы зусім блізка страшна зароў дзікі звер, і яго віск раптам пераўтварыўся ў перадсмяротнае хрыпенне.

Ізноў нахлынула цішыня.

Але начны спакой джунглі хутка наводзіць на адзінокага чалавека нястрымны страх. Вось то тут, то там паказваюцца злавешчыя агеньчыкі звярыных слепнякоў-зялёныя, чырвоныя, жоўтыя, аранжавыя. З прыходам змроку пачынаецца ў джунглі яе праўдзівае жыццё. Надыходзіць час лясных трагедый. Ноччу адважваюцца вылезці са сваіх сховішчаў нават найбольш баязлівыя зверкі, але цемрадзь не скрывае іх перад ворагамі. Драпежнікі ўмеюць палюваць і ўпоцемку.

Ноччу прачынаецца тамандуа - мурашкаед, які сваім ліпкім языком злізвае тэрмітаў. Бяда таму, хто наважыцца напасці на яго, усё роўна, ці гэта быў бы ягуар, ацэлот, малпа або чалавек. Тамандуа стралою кідаецца ў атаку, цэлячыся ў жывот, і сагнёнымі кіпцюрамі разрывае нутро. Высока, у зарасніках, носяцца хмары кажаноў паядаючых мноства ўсякіх насякомых. А сярод іх асабліва рухлівыя «вампіры», у якіх да таго вузкае горла, што яны не могуць праглынуць нат' найменшай мушкі. Таму вампіры харчуюцца толькі крывёю птушак і ўсякіх звяроў. Атакуюць таксама і чалавека. Пра вампіраў упершыню стала вядомым у Еўропе пасля вяртання Калумба ў Іспанію. Вампір не высысае крыві, а злізвае яе языком. Яго сліна раз'ятрвае рану і кроў цячэ з яе цэлымі гадзінамі пасля таго, як ён раздуты ад сытасці цяжка адляціць.

Уначы вылятае на паляванне гуахара, птушка падобная да курыцы, якая гнездзіцца ў пячорах далёкіх гор. Пры змярканні першымі вылятаюць іх разведчыкі, і, калі пададуць сігнал «дарога свабодная», вылятаюць услед вялікімі групамі па 20—30 штук рэшта гуахара. За ноч могуць яны праляцець да трохсот кіламетраў, бясшумна і дакладна арыентуючыся ў цемнаце быццам кажаны. Іншы раз у начной цішы чутны жалобны спеў казадоя. Гэтая птушка зімуе ў Цэнтральнай Амерыцы. Спявае яна ў сцісла акрэслены час, ад змроку да 9 гадз. 30 мін. вечара і ад другой гадзіны ўначы да світання.

Ёсць у джунглях і свае «ліхтары». Найболей бліскучыя з іх — жукі на Пуэрта Рыка: два жукі могуць асвятліць увесь пакой. Гэтыя жукі цэлымі начамі носяцца над палямі, абсвятляючы іх жоўта-зялёным або жоўта-чырвоным бляскам. Вядомы выпадкі, калі гэтыя насякомыя ратавалі жыццё чалавеку: у час іспана-амерыканскай вайны былі роблены аперацыі пры свеце насыпаных у бутэльку жукоў.

Ёсць такія даліны, дзе змрок абазначае смерць начлежнікаў. Знаходзяцца яны на заходніх схілах Перуанскіх Анд. Упершыню даведаўся аб гэтым у 1630 годзе адзін іспанскі медык. Кожны, хто правёў у гэтых далінах некалькі ночаў, захварэў цяжкай анеміяй, што часта канчалася смерцю. Калі нават чалавек і не памёр, дык усё ягонае цела пакрывалася балячкамі. Мясцовыя людзі завуць гэту хваробу «вэруга». У навуцы вядома яна пад назваю хваробы Карыёна Перуанскага, студэнта — медыка, які сам заразіўся ёю і памёр. Але ён даказаў, што разносчыкам хваробы з'яўляецца асаблівая пясчаная муха, якая днём хаваецца ў пяску.

На світанні аглушвае страшэнны, жахлівы крык малпы-равуна, які чуваць за 10—15 кіламетраў. Равуны жывуць на верхавінах дрэў, ратуючыся такім чынам ад драпежнікаў. Сваім жудасным крыкам ратуецца яна ад смяртэльнай небяспекі. Таму, мабыць, драпежныя звяры ўнікаюць малпы - равуна, каб не наводзіць лішняй панікі. Неспадзявана паўстае шум падобны да грымотаў. Гэта праносяцца сотні маленькіх дзікіх свіней. Ніхто не ў сілах спыніць іхні бег. Яны ўмомант раздзерлі б чалавека на кавалачкі. Аднак па астатніх свінках можна смела страляць бо яны ніколі не варочаюцца.

Свіны ломат паволі заціхае ўдалечыні... Джунгля напаўняецца цяпер крыклівымі гукамі і водгаласамі, якія абвяшчаюць прыход новага дня. Світае. (а-ся)

## ЗАКАХАНЫЯ ДРЭВЫ

**На ўскраіне сяла Малое Альжэва, Лідскага раёна (БССР) стаяць абняўшыся клён і ліпа. Яны скрыжавалі ствалы і цесна спляліся галінкамі. Людзі называюць іх тут закаханымі дрэвамі. Аб іх нават легенды злажылі.**

# Трыбуна чытачоў



## ПА РОДНЫХ МЯСЦІНАХ

Калі выехаць з лесу і ўзняцца на ўзгорак, перад вачыма распасціраецца ў раннім імглівым сонцы цудоўная панарама Юшкавага Груда. Пакуль што зматарызаваны вандроўнік мусіць прабірацца туды па грузкім пяску. Незадоўга аднак пралажаць тут асфальтную шашу, якая спалучыць Беласток праз Міхалова з Ялоўкай, звязваючы найдалейшыя ўсходнія вёскі з павятовым цэнтрам.

Фота: **В. РУДЧЫК**

ЧЫНАМ ВІТАЕМ ГОД БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Без партыі ні кроку

Аляксандр Лушчынскі, старшыня Прэзідыум ГРН у Грыгароўцах, чалавек ужо старэйшы, але энергіяй і арганізатарскімі ўмеласцямі дараўняе яму не кожны малады.

— Ну, аб'явілі ў нас гэты Год Беластоцкай зямлі, — кажа Аляксандр Лушчынскі, — кінулі лозунг: «Чынам вітаем Год Беластоцкай зямлі». А ў нас, ведаеце, быў такі кавалак дарогі, каля 3-ох кіламетраў, што звязвае Грыгароўцы з шашой Бельск — Сямяцічы. Проста гора, не дарога! Ямы і гліна. Не адну аўтамашыну прыходзілася выцягваць з гэтай растопіцы пры дапамозе коней. Такая «прыемнасць» сустрэла нават сакратара Уладзіміра Міхалюка з Бельска. Заваліўся бедны ў калужу па самыя вокны аўтамашыны. Вось мы і пастанавілі ўзяцца за гэтую чартоўскую дарогу. Значыць, каб і ў нас ажыццяўляць лозунг.

Пастанавіць лёгка, зрабіць шмат цяжэй. Тым больш, што былі тады першыя дні мая, разгар палявых работ. Але ад чаго ж у нас ёсць партыя, ад чаго ж яе члены? — падумаў я. Пагаварыў з адным, з другім. Падтрымалі. Ну, дык і давай склікаць агульныя сходы ў вёсках.

У кожнай вёсцы асабліва многа памагалі мне члены мясцовых пярвічных партыйных арганізацый. І без іх я не зрабіў бы ані кроку, а так, дзякуючы вось ім, ёсць зараз у мяне звыш 2-х кіламетраў гладкай, бы стол, дарогі пакрытай гравіем, абсаджанай дрэўцамі. Пры яе пабудове шчыра папрацавалі гаспадары з Дыдуль, Алексіна, Градэляў і Грыгароўцаў. Не магу памінуць моўчкі таксама і жыхараў Вулькі Выганоўскай. Яны, што праўда, гэтай дарогі не будавалі, але за тое ў сябе ў вёсцы зрабілі ўсё, што трэба пры пабудове фундаменту пад мясцовую краму. Тут арганізаваў людзей да працы сакратар грамадскага камітэта ПАРП таварыш Пятрук Грыгарук, а шмат яму памагаў Дзмітры Васілеўскі.

(вр)

З пісем землякоў

## МІШКА ЗАХВАРЭЎ

Прызвычаіліся нашы людзі наракаць на ўсё, што толькі ім на зубы падкруціцца. Стогне Самучковая Ірка, што яе Мішка штораз горш хворы і лекары цяперашнія ніяк не могуць яго вылечыць. Нават у Беласток вазілі мужыка да якогасьці слыннага перадваеннага дохтара. Вядома, жаль кабеціны маладой, але на мой розум, сцеражонага Бог сцеражэ. Што ж паможа многа дохтар, калі людкове сябе шанаваць не ўмеюць!?

Жнем мы гэта якраз жыта. Ірчына палоска зараз жа непадалёку нашай знаходзіцца. Бачу, скідае яе Мішка кашулю, бо гарачыня якасьці ўдарыла, сонца прыпарыла моцна. Косіць ён так косіць аж да абеду плечы чымсьці нашмараваўшы, каб скура не аблупілася. Значыць, загарэць задумаў. А ў абед не паспеў перакусіць, ажно ўглядаюся, пагнаўся Мішка да азярка лугавога купацца, дурань бязвусы. Каб хаця адпачыў толкам ды астыў пад дзесяткаю ў ценю... А там, на той лугавіне, назбягалася шпукаў малых з усяе вёскі, па дрыгве валочацца, у вадзе плыткай плёхкаюцца, нібы нырцуюць у гэткай мазі балотнай, дзе і каровы лазяць хвастамі пырскаючы. Пасля купання такога, няйначай, чалавек бруднейшым вылезе чымсьці быў, ды яшчэ хваробы якой наліжацца, і паскудзі рознай.

Доўга не чакаючы, назаўтра прыбягае ранюсенька Ірка да нас, бубніць у шыбу на світанні, у дзверы ламочацца, плача, слязьмі заліваецца. Злітуйцеся, лямантуе, зрабіце ласку ў такі час жніўны, запражыце каня і павязем Мішку да лекара, бо непрытомным валяецца ў ложку, усенька скідае — здзірае з сябе ў гарачцы страшнай!

Гавару Андрэю свайму, — хутчэй пасняшай, а то няшчасце можа вынікнуць, едзь і варочайся на дзень. Я за той час снапы павяжу ўчарашнія і пастаўлю, заграблю каласы і абажну сярпом тамтойка цэтлік за лугам, каб табе лягчэй касіць было сярэдзіну адну.

Аказалася, Мішку схапіла запаленне лёгкіх, а прытым каросты нейкай набраўся, усё дзярэцца пад пахамі і па жываце. Ой, доўга хварэў, сам мучыўся без дай рацыі ды Ірка пры ім наплакалася — нагаравалася. Высах ён у шчэпку, на шкілет прыпадобніўся, слабізнаю зрабіўся надоўга.

Так, вось, другі год, як лечыць Ірка свайго Мішку. Няма такога тыдня, каб кудысьці не ехалі. Цяпер нагаварыў ім хтосьці, што дзесьці пад Варшаваю знаходзіцца знаўца добры, прафесар надта слаўны. Да яго выбіраюцца, дарогі паўсвету, коштаў бязліку. Але здароўя нідзе не купіш, ніхто яго не прадасць.

Казала я Ірцы не раз, што ляпей ужо аднаго дохтара трымацца, не бегаць — раз'язджаць то туды, то сюды, та-й за гэткі час мо' вылечыўся б Міхаська зусім. Ну, ніяк яе не пераканаеш, баіцца ўсім целам, дурніца, і наслухаўшыся размоваў усякіх штораз лепшага дохтара шукае, дарэшты ашалела! Вывальвае грошы, на вачах гібее гаспадарка ўся. Сама толкам не можа сказаць, лягчэй Міхасю ці горай робіцца?

А ён, Мішка гэты, нервуецца безустанку гледзячы на пагібель працы рук сваіх. Ірка з бацькамі нікуды яго не пускаюць — тады нічога дзіўнага, што чалавеку здаецца смерць блізкая! А ў гневе і злосці, страху і жалю здароўе дашчэнту змарнуе.

**Адоль КАСТРЫЦА**

## КАЛІ ЛАСКА: ШАХМАТЫ

Доўга цягнуўся спор паміж кафлярняй і Прэзідыумам мясцовай ГРН за Мілейчыцкую святліцу. Урэшце на пачатку б. г. перамог Прэзідыум. Новы гаспадар святліцы адразу паклапаціўся за яе прыгажэйшы выгляд. Цяпер святліца ў Мілейчыцах сапраўды адпавядае ўмовам культурнага разгарнення. Яе рамонт каштаваў 116 тыс. зл. Асноўную частку коштаў пакрыў Аддзел культуры Прэзідыума ПРН у Сямяцічах, але 36 тыс. злотых выгаспадаравала таксама ГРН Мілейчыцы.

Цэлы будынак зараз адноўлены і з мастацкім смакам адмаляваны. Прыемна проста глядзець. На глядзельнай зале аднак стаяць яшчэ старыя паламаныя лавы. На новыя крэслы не хапіла, мабыць, грошай. Гэта ў значнай ступені псуе агульны выгляд Мілейчыцкай святліцы.

Затое на першым паверсе, дзе размешчаны тры асобныя пакойчыкі, дзе знаходзіцца чытэльня і бібліятэка, сапраўды прыемна пасядзець, пачытаць кніжкі ці часопісы, або заняцца шахматамі ды шашкамі.

На здымку: кіраўнік мясцовага «Загса», Антон Пракаповіч (справа) вядзе зацятую шахматную барацьбу з сакратаром Прэзідыума ГРН, Марцінам Пахвіцэвічам.

Тэкст і фота:
**М. НУРЭЦКІ**






Дарагое Сэрцайка!

Жыву я ў малым павятовым мястэчку Б. Маю 24 гады. Я яшчэ незамужняя. Маю добрую працу і мне шанцуе ў жыцці, як дагэтуль, нядрэнна. І вось што са мною здарылася. Нядаўна я пазнаёмілася з адным хлопцам. Ён прыехаў у камандзіроўку на некалькі месяцаў да нашага мястэчка. Вельмі мне спадабаўся, я проста пакахала яго. Я яму таксама спадабалася. Але ў нас адна ёсць перашкода. Ён мае жонку і дзіця. Пра гэта даведалася я адразу, пры першым спатканні. Мы пачалі сустракацца. Я нат' сама прыходжу да яго, дзе ён жыве, і ён таксама прыязджае да мяне (мае матацыкл). Калі я выязджаю ў камандзіроўку, прыязджае па мяне таксама. Штораз ён мне больш падабаецца. Ён не таіць, што жанаты, а нават сам мне казаў, што жыве вельмі дрэнна з жонкаю і мо' разыдзецца. Шкадуе толькі дзіцяці, якое вельмі кахае. Сэрцайка, што мне рабіць. Парай.

**ГАЛІНА С.**
з мястэчка Б.

Галіна!

Пэўна ты спадзяешся, што я табе дапамагу, параю і надалей крыўдзіць другую жанчыну і дзіцё. Ты ж маеш 24 гады, а паступкі твае дрэнныя, вельмі дрэнныя і нялюдскія. З лісту відаць, што твой «хлапец» любіць прыгоды і таму так з табой паступае, як з іншымі, якія яму спадабаюцца. Гэты чалавек, відаць, пазбаўлены ўсялякіх маральных прынцыпаў. А ты ўсё ж такі жанчына, ці падумала ты аб яго жонцы, аб дзіцяці, якому стараешся сілай забраць бацьку? Ці падумала ты, як ты іх крыўдзіш? А павінна падумаць. І цябе ж у жыцці можа тое самае спаткаць, ніхто з нас не знае свайго далейшага жыцця. І як чулася б ты, калі б табе другая забірала мужа, а дзіцяці твайму бацьку?

Іменна ты павінна з гэтым пакончыць і то як найхутчэй. Ужо час апамятацца. А што яны дрэнна жывуць, як кажа табе «твой хлапец», дык не сведчыць аб тым, што зараз развядзецца і ажэніцца з табой. Відавочна ён кожнай сваёй «выбранай» таксама гаворыць. Гэта яго метад у здабыванні наіўных і нешануючых сябе дзяўчат.

**Сэрцайка**

## КІНО

Праграма на 29. VII — 4. VIII. 1963 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Skradziono bambę" (rumuński). 30. VII — 1. VIII. „Czerwone berety" (polski), 2—4. VIII.

**Кляшчэлі**
„Lata bez marzeń" (węgierski). 30. VII. — 1. VIII. „Czas rozłąki" (radz.), 2—4. VIII.

**Нараў**
„Pan i Astrolog" (czeski), 31. VII. — 4. VIII.

**Нараўка**
„Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 31. VII. — 4. VIII.

**Чаромуха**
„Ożeniłem się z czarownicą" (USA). 30. VII. — 4. VIII. „Na scenach świata" (rumuński), 2—4. VIII.

**Чыжы**
„Majowe gwiazdy" (czeski), 31. VII. — 4. VIII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Pierwszy lot w Kosmos" (radz.), 1—4. VIII.

**Бранск**
„Ocean lodowaty wzywa" (czeski), 30. VII.—1. VIII. „Chłopiec z czarnego lądu" (angl.), 2—4. VIII.

**Гродзіск**
„Jadą goscie, jadą" (polski), 3—4. VIII.

**Орля**
„Ten, który wrócił" (radz.), 31. VII. — 4. VIII.

**Рэйск**
„Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 31. VII. — 4. VIII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Syn skazańca" (angl.), 30. VII. — 1. VIII. „Jutro przestaniesz umierać" (radz.), 2—4.

**Міхалова**
„Księga dżungli" (angielski). 30. VII. — 1. VIII. „Wielka, większa i największa" (polski), 2—4. VIII.

**Супрасль**
„Artysta do wszystkiego" (radziecki), 30. VII. — 1. VIII. „Gangsterzy i filantropi" (polski), 2. VII. — 4. VIII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Nikt nie zna prawdy" (radz.), 30. VII. — 1. VIII. „Czerwone berety" (polski), 2—4. VIII.

**Нурэц**
„Gdy drzewa były duże" (radz.), 30. VII. — 1. VIII. „Jutro przestaniesz umierać" (radz.), 2—4. VIII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Przygody Munchhausena" (angl.), 30. VII. — 1. VIII. „Na białym szlaku" (polski), 2—4. VIII.

**Сухаволя**
„Pod słońcem Indii" (hinduski), 30. VII. — 1. VIII. „Kolorowe pończochy" (polski), 2. VIII — 4. VIII.

**Шудзялава**
„O dwóch takch, co ukradli księżyc" (polski), 31. VII. — 4. VIII.

**Янаў**
„Piąty wydział" (czeski), 30. VII. — 4. VIII.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Bariera ognia" (radz.), 3—4. VIII.

У днях 29. VII. — 4. VIII. у мясцовасцях Мілейчыцы, Навасады і Новы Двор фільмы высвятляцца не будуць.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red naczelny 25-89, centrala 37-41 do 48.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 zł. półrocznie — 14.40 zł. rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-181 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $. w Europie 5 $ — w USA.
Nakład [illegible] BHP A 3

## Адказаў

— Чаму раса ранкам пакрывае зелле — спыталі мудраца.

— Бо зямля вельмі круціцца і пацее — адказаў мудрэц.

С. Ю.




# РУЧНІКІ

Ветрам прынясло ці мо' чэрці прыслалі заморскага госця ў нашу глуш — не ведаю. Паявіўся ў нас капіталіст нафашыраваны доларамі.

Захацелася загранічнаму госцю напампавацца Белавежскім паветрам, з зубрамі пазнаёміцца і перацягнуць праз граніцу без пошліны ўспаміны аб пушчы. Неяк гэты грамадзянін зайшоў у хатку пушчанскай вёскі напіцца малака і пабачыў Марусю. Ці яму малачко пасмакавала, ці мо' Маруся зацярушыла вока, прыезджы засеў у вёсцы на месяц.

Аднойчы, заліваючы малаком ягады з цукрам, госць пабачыў вышыты ручнік. Цуда — ручнік. На кужэльным, белым як цвет яблыні, палатне — узоры развясёлыя. Дзе крыжыкам вышыта, а дзе гладка.

Маруся наша рукадзельніца — першай рукі. Таму дзіву няма, што госць палез у кішэню за партфелем і вылажыў некалькі долараў на ручнік.

— За морам - акіянам маму з татам маеце? — пытае Маруся.

— У нас за граніцай не маму з татай, а тата з мамай маюць, — кажа прыезджы.

Маруся пакорпалася ў сундуку і падала яму два ручнікі яшчэ прыгажэйшыя.

Спадабаліся відаць Марусі загранічныя грошы, а можа проста так, карыстаючыся выпадкам, спытала:

— Брата маеце?

— Трох нас у бацькоў,

— кажа госць. — А наогул дык у нас людзі ўсе браты.

Маруся ізноў падала два ручнікі, забрала грошы, а прыезджы пытае:

— Для цёткі і бабулі нічога не знойдзецца?

Знайшлося. Маруся ў нас дзяўчына, у якой на сваім месцы ўсё знаходзіцца. Госць на некалькі дзён недзе падзеўся. Аказалася, што ездзіў да Консула за патрэбнымі паперамі.

Калі вярнуўся ізноў да вёскі — бомба лопнула. Выяснілася — не капіталіст гэта, а шахцёр з Каліфорніі. Незадоўга яны запісаліся з Марусяй у Загсе і пакаціліся ў сонечны край. Ручнікам ім дарога.

— Што вязеце? — пытаюць на граніцы тамажнікі.

— Каханне! — адказвае шахцёр.

— Паказвайце, мы слова не верым, — кажа чыноўнік.

— Яно ў мяне ў сэрцы схавана, — кажа шахцёр.

— Ну што ж, плаціце пошліну, — прапануе тамажнік.

— Пошліну за каханне? — здзіўляецца маладажон.

— Так, за вашае каханне да мастацкіх вырабаў, — паясняе тамажнік.

— Дык гэта ж ручнікі! — кажа шахцёр.

— Сам бачу, што не персідскія дываны, — спакойна адказвае тамажнік. — Такія ручнікі ў музеях паказваюць. За мастацкія вырабы спецыяльны тарыф у нас.

— А за майстра гэтых вырабаў колькі трэба плаціць? — запытаў маладажон, паказваючы на Марусю.

— За людзей пошліны не бярэм, — казырнуўшы адказаў тамажнік і перайшоў да наступнага.

Пошліну за ручнікі давялося шахцёру заплаціць, а што нашыя народныя майстры здзіўляюць сваім майстэрствам увесь свет — гэта ўжо іншая справа.

Дзядзька Лявон

## КУР'ЕЗЫ

### МАЎЧАННЕ — ГЭТА ЗОЛАТА

Канадскі злодзей, нейкі Рэгінальд, прылапаны і падстрэлены паліцыянтам у час абкрадання чужога памяшкання, здолеў шчасліва ўцячы дамоў. Там без дапамогі доктара сам зрабіў аперацыю. Выняў з пляча застрэўшую кулю, а ў рану ўлажыў другую, калібера якой паліцыя не ўжывала. За нейкі час пасля гэтага ўлады бяспекі арыштавалі злодзея і накіравалі ў турму. Пракуратар, змылены фальшывымі доказамі не змог пераканаць суддзю аб віне Рэгінальда. Злодзей быў бы выпушчаны на свабоду, калі б не пахваліўся спрытам сваім перад вязнямі.

### НАЧНЫЯ РЭСТАРАНЫ

У час візіту архіепіскапа Кэнцярберы ў Нью-Йорку, адзін з прыбыўшых на аэрадром журналістаў запытаў яго, што думае аб нью-йоркскіх начных рэстаранах. Архіепіскап адказаў на пытанне пытаннем: «А ці ў Нью - Йорку ёсць начныя рэстараны?»

Апублікаванае на заўтра інтэрв'ю з дастойным госцем указалася пад аграмадным загалоўкам: «Архіепіскап Кэнцярберы пытаецца, ці ў Нью-Йорку існуюць начныя рэстараны».

### ВЫЦВЕРАЗІЦЕЛЬНАЯ ТРУНА

Навасандэцкі цырульнік, грамадзянін М. Х. пасля абеду, пры якім не бракла алкаголю, ужо на парозе гасподы пачуўся вельмі стомленым і сонным. Калідор цырульніка быў якраз па-суседску з майстэрняй столяра, які выставіў там на продаж зробленыя труны. Выгляд адной з іх, прыемна вымашчанай мяккімі стружкамі, яшчэ больш узмацніў соннасць цырульніка. Ён лёг у труну і заснуў. Па труну прыйшлі пакупнікі. Заладавалі яе на возік і павезлі. Толькі тады прачнуўся цырульнік. Хвіліна не была прыемная, калі труна на возіку расчынілася і выглянуў з яе «нябожчык» цырульнік. Гэтая гісторыя зрабіла цырульніка найбольш папулярным жыхарам Новага Сонча.



— Намаляваў за гадзіну, а назву і за тыдзень ніяк не прыдумаю!



Без слоў.

— А цяпер паўтарай за мамай: — Гэта мая старэйшая сястронка, — гэта мая...



«Верны» муж.

## Запрашэнне

Муж звоніць да жонкі:

— Я запрасіў сёння да нас на абед майго сябра.

— Ці ты здурнеў? Ты ж ведаеш, што ў дзіцяці прарэзваюцца зубы, і яно плача цэлымі днямі! Ведаеш таксама, што пазаўчора адышла домработніца! Што дома няма ні кусочка мяса! Што ў хаце страшэнны балаган, а я ўжо месяц як не была ў цырульніка!

— Ведаю, даражэнькая, але бачыш, мой сябра хоча жаніцца і я, замест даць яму некалькі парад, якіх ён бы і так не паслухаў, хачу яму паказаць наочна, што яго чакае!

## ГНАЎ і ЯГО ПАГНАЛІ

— Бачыў як яго пагналі?

— Куды?

— У турму.

— За што?

— Бо ён гнаў.

— Каго?

— Самагонку. Па-польску — бімбэр.

— О! То ўжо пабімбае паўгодзіка.

— Мала гэта. Яшчэ трэба 6 тысяч злотых заплаціць.

— О! То ўжо больш не будзе гнаць.

## ДЗВЕ ХЛУСНІ

Аднойчы Васіль кажа да Паўла: — знаеш сусед, я ўчора меў цікавы выпадак. Увязаў каня на пастэўніку, а сам пайшоў дамоў, бачу праз акно, конь мой скача і рвецца, як апантаны. Што яму ёсць, думаю. Пайшоў я глядзець, а яго заяц кіем валіць.

— Я, — кажа Павал, — таксама пазаўчора меў цуда. Замкнуў хату і пайшоў у вёску. Прыходжу дамоў, чую, хтось ці ў хаце кашляе. Божа, думаю, хто ж там дабраўся? Баюся адмыкаць дзверы. Але трудна, іду. Бачу, на парозе сядзіць вош і так моцна кашляе, што аж вокны дрыжаць.

Прыслаў **Хомік**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Уладзіміра Якубоўскага з Варшавы, змяшчаем песню

## На сопках Манчжурии

Тихо вокруг,
Сопки покрыты мглой,
Вот из-за туч блеснула луна,
Могилы хранят покой.

Белеют кресты —
Это герои спят.
Прошлого тени кружатся вновь
О жертвах боев твердят.

Плачет, плачет мать родная,
Плачет молодая жена,
Плачут все, как один человек,
Свой рок и судьбу кляня.

Тихо вокруг,
Ветер туман унес.
На сопках манчжурских воины спят
И русских не слышат слёз.

Пусть гаснян
Вам навевает сны.
Спите, герои русской земли,
Отчизны родной сыны.

Вы пали за Русь,
Погибли за отчизну,
Поверьте, мы за вас отомстим
И справим кровавую тризну.